работай.

Ваявода мае права азначыць распараджэньнем: 1) найвышэйшую дапускаемую граніцу шарваркавага цяжару; 2) час пільных палявых ці лясных работ; 3) найдалей дапускаемую адлежнасьць месца работ ад прадмета, на каторы наложаны шарварак; 4) вартасьць дня працы з канём, паказаную ў днях пешай працы; 5) найвышэйшыя дапускаемыя стаўкі (вышыню) у грашох за 1 дзень пешай работы.

Гмінныя Рады пастанаўляюць аб шарварку пры выконваньні тых работ, якія ўваходзяць у кола дзейнасьці гміны. Гэта адбываецца таксама, як і накладаньне гмінных падаткаў. Гмінны Урад прадстаўляе Гміннай Радзе плян работ, якія павінны быць зроблены з помачай шарварку. Ад Гміннай Рады залежыць прыняцьце пастановы аб шарварку, патрэбным пры найбольш карысных і неабходных працах. Ува ўсіх іншых прыпадках аб накладаньні шарварку пастанаўляюць Павятовыя Рады.

Міністар Унутраных Спраў у паразуменьні з Міністрам Земляробства і Зямельных Рэформаў выдасьць распараджэньне аб тым, як будзе накладацца і зьбірацца шарваркавы падатак. Колькасьць гэтага падатку на мэты, не абнятыя патрэбамі гміны і грамады ня можа перавышаць у гэтым бюджэтным годзе 25 працантаў (чацьвертай часткі) працы натурай, наложанай на аснове шарваркавага закону.

Ваявода вызначыць найвышэйшыя межы шарваркавага абавязку. *В.*

# Бездагляднасьць дзяцей у СССР.

1-га гэтага чэрвеня рада народных камісараў СССР і цэнтральны камітэт партыі разам выдалі дэкрэт „аб ліквідацыі дзіцячай бездагляднасьці і безнагляднасьці".

Відаць зьявішча бездагляднасьці дзяцей вырасла ў варунках бальшавіцкае дыктатуры да разьмераў запраўднага соцыяльнага няшчасьця, калі ліквідацыя яго ставіцца ў дзяржаўным маштабе. Дасюль з дзіцячай бездагляднасьцю барацьба ў бальшавікоў вялася ў г. зв. *грамадзкім* парадку. Але якая можа быць грамадзкасьць пад бяздушнаю сталінскаю дыктатураю?

У прадмове да пяцёх разьдзелаў новага савецкага дэкрэту прызнаецца, што „большасьць дзіцячых дамоў пастаўлена нездавальняюча, зусім недастатковая, а ў цэлым радзе месцаў і зусім не праяўляецца арганізацыйная барацьба з дзіцячым хуліганствам і праступнымі элемэнтамі сярод дзяцей і падросткаў; дасюль „ня створаны варункі, пры якіх тыя, што апынуліся „на вуліцы", дзеці незабаўна памяшчаліся-б у адпаведныя дзіцячыя ўстановы або аддаваліся-б назад бацьком; няма ўплываньня і прыцягваньня да адказнасьці бацькоў і апякуноў, якія ня рупяцца аб сваіх дзецях і дапушчаюць хуліганства, зладзейства, распусту і бадзяцтва іх"...

Разьдзел першы дэкрэту гаворыць аб палепшаньні стану дзіцячых дамоў і працоўных калёніяў, што знаходзяцца ў веданьні народных камісарыятаў асьветы саюзных рэспублікаў, народных камісарыятаў аховы здароўя, народных камісарыятаў соцыяльнае апекі і народнага камісарыяту ўнутраных справаў СССР.

Асабліва цікавыя пункты гавораць аб „устанаўленьні ўва ўсіх дзіцячых дамох і калёніях *працоўнага рэжыму*, які забясьпечваў-бы прышчапленьне дзецям працоўных прывычак і апанаваньне тае ці іншае прафэсіі на час выхаду з дзіцячага дому або калёніі". Далей загадваецца пераглядзець контынгент выхаванкаў дзіцячых установаў і звольніць гэтыя установы ад *пераросткаў у веку больш за 14 гадоў, скіраваўшы іх у школы або ў прамысловыя прадпрыемствы, у совхозы, калхозы для работы і навучаньня.*

Устанаўляецца асабістая адказнасьць пэрсоналу дзіцячых установаў за растрату матар'яльных рэсурсаў, уцёкі гадунцоў і ўтойваньне ўцёкаў. 200 адборных камуністых і 500 актыўных камсамольцаў выдзяляюцца для работы ў дзіцячых дамох і калёніях дзеля замяшчаньня загадчыкаў па выхаваўчай часьці. 300 кваліфікаваных рабочых выдзяляюцца з прадпрыемстваў на кіраўніцтва майстроўнямі ў дзіцячых дамох і калёніях. 500 навасьпечаных пэдагогічнымі тэхнікумамі настаўнікаў і 125 тыс, што канчаюць у гэтым годзе ВУЗ'ы, выдзяляюцца на работу ў гэтых дамох і калёніях. Усім камандзірованым туды падвышаецца заработная плата.

Разьдзел 2-гі дэкрэту накладае нават крымінальную адказнасьць на апякуноў, якія выкарыстваюць апеку дзеля сваіх мэтаў (заняцьце кватэры „*жилплощади*"), скарыстаньне з маемасьці, якая засталася па сьмерці бацькоў і інш.), ды пакідаюць дзяцей без дагляду і неабходнае матар'яльнае падмогі. Накладаецца нават „асаблівая адказнасьць на старшыняў сельскіх радаў і на назначаных сельрадамі апякуноў", якія ня рупяцца аб выхаваньні дзяцей-сірот ды дапушчаюць іх да бадзяцтва. Дзеля выдаваньня падмогаў касам грамадзкай узаемапомачы калхозаў (па 30 рублёў на кожныя 100 руб., расходаваныя на падмогу дзецям-сіротам ды дзецям бацькоў, трапіўшых у галіту) выдзелена на 1935 г. 5 мільёнаў рублёў.

Разьдзел трэці ўложаны нявыразна: „узмацніць барацьбу" і інш. з... хуліганствам дзяцей на вуліцах. Чацьвёрты разьдзел накладае адказнасьць на бацькоў. Міліцыі даецца права штрафаваць бацькоў у адміністрацыйным парадку да 200 руб. за шурмаваньне і вулічнае хуліганства дзяцей. Устаноўлена нават матар'яльная адказнасьць бацькоў і апякуноў за выпадкі, калі дзеці зробяць каму-небудзь матар'яльную шкоду. Есьць таксама пункт аб... адбіраньні дзяцей ад бацькоў і памяшчэньні іх у дзіцячыя дамы з аплатаю бацькамі кошту іх утрыманьня.

Нарэшце пяты пункт кажа аб дзіцячых кінафільмах і літэратуры.

„Правда" за 1-е чэрвеня на той самай бачыне, дзе надрукованы новы бальшавіцкі дэкрэт, растлумачвае яго пункты пад гучным загалоўкам „Гэтак рупіцца аб дзецях толькі савецкая ўлада". Цікавая ў гэтым артыкуле „апрацоўка" нявольных савецкіх чытачоў: „Безрабоцьце, голад, галіта—усё гэта зьліквідована ў савецкай краіне" (а нашто-ж прадбачыцца падмога дзецям, бацькі якіх папалі ў галіту?) „і з імі зьліквідованы аснаўныя крыніцы дзіцячае бездагляднасьці"...—трубіць партыйны афіцыёз, даводзячы далей: „Але яшчэ застаецца, як перажытак капіталізму, ў сьведамасьці людзей, няўвага да дзяцей, чэрствае адношаньне да іх"...

Зразумела, чаму „Правда" маўчыць аб тым, што ніводная краіна ня мае ніякае патрэбы выдаваць настолькі драматычныя і драконаўскія дэкрэты „аб ліквідацыі дзіцячай бездагляднасьці". Няшчасныя дзеці ёсьць у кожнай краіне, аднак ня ў гэткім разьмеры, як у саветах, дзе яны сталі нейкім „нармальным" зьявішчам бальшавіцкага быту, сплоджаным спэцыфічным рэжымам бяздушнае охлократыі.

**Навучайце сваіх дзяцей чытаць і пісаць пабеларуску!**

# Што робіцца ў працягу аднае гадзіны.

Статыстыкі, маючы час, заняліся вылічэньнем усяго таго, што робіцца ўва ўсім сьвеце ў працягу аднае гадзіны.

Аказалася, што ў працягу гадзіны родзіцца 5.440 дзяцей і памірае 4.630 чалавек, а гэта дае штодзеннае павялічэньне жыхароў зямное кулі на 20.000 чалавек.

За адну гадзіну адбываецца 1.200 шлюбаў і таксама 85 разводаў.

Прамысловасьць перарабляе 300 тоннаў воўны і 1000 тоннаў ваты. За адну гадзіну вырабляецца 99.600 тоннаў цукру і спажываецца яго 98.000 тоннаў (тонна—62 пуды).

За гадзіну выкурваецца табакі на 190.000.000 леяў (франкаў) ды выпіваецца 1.500.000 літраў віна і паўмільёна літраў піва. За той самы час (1 гадзіну) дабываецца 122.000 тоннаў вугля, золата на 212 мільёнаў і серабра на 640 мільёнаў леяў.

Паляўнічыя за адну гадзіну забіваюць 350.000 галоў пушное зьвярыны. Самаходныя фабрыкі за гадзіну выпушчаюць 700 самаходаў і за тую-ж гадзіну пад коламі самаходаў гіне 17 чалавек.

Сусьветная пошта за гадзіну прапушчае праз сваю экспэдыцыю 114.000 тэлеграмаў і 1.141.000 пісьмаў ды адкрытак, а на гэта ідзе марак на 2 мільярды леяў (мільярд=1.000 мільёнаў).

І, нарэшце, зарабляюць у гадзіну: кітайскі кулі—2 леі, а старшыня электрычнага трэсту ў Нью-Іорку—9.700 леяў.

**Бажэнаў.**

# Шустрая бабулька.

### Камэдыя ў I акце.

Пераклад з расейскага *В. Г.*

(Гл. № 14 „Роднага Краю").

Глоў. Што-ж мне рабіць з сынам? Ён закахаўся ў вашай ўнучцы, і яна яго таксама кахае.

Ключ. Якое паміж імі можа быць каханьне. З часам гэта глупства выйдзе з галавы. Я куплю сваёй ўнучцы новую лялку — і яна адчэпіцца, а ваш сын ажэніцца з другою.

Глоў. Не, не! Вы як хочаце, а я не магу адважыцца.

Ключ. Ня можаце, гэта знача ня хочаце. Скажэце проста: я вам не падабаюся, вы мяне ненавідзіце.

Глоў. Што вы кажаце Аўдоцья Цярэньцьеўна, як гэта можна!

Ключ. Дык я вам падабаюся?

Глоў. Падабацца, то падабаецеся, але я ніколі ня думаў жаніцца з вамі.

Ключ. Ці мала чаго ня думаем, а здарыцца... Вы падумайце толькі адно: вы чалавек небагаты, а я, дзякаваць Богу, кабета ня бедная. Вы ведаеце, якая ў мяне гаспадарка, дом як цацка, грыбоў хоць ня еш, і варэньня, і саленьня, і наліўкі, і вадзянкі... Вы будзеце, як сыр у масле.

Глоў. Ах, як вы соладка гаворыце. Вы ўводзіце ў пакусу. Сырэна! Хоць якога філёзафа з дарогі саб'еце.

Ключ. Ну, дык знача ўжо пастаноўлена?

Глоў. Як-жа так хутка.

Ключ. Хутка здаецца, а не хутка робіцца. Сяньня мы толькі пастанавілі, а вясельле зрабіць будзе час.

Глоў. (сабе) А можа за гэты час розуму набярэшся.

Ключ. Ну, што, добра?

Глоў. Ох!... добра.

Ключ. Такія адважныя мне вельмі падабаюцца.

Глоў. (сабе) Вось штука. Думаў высватаць сына, а сам усватаўся. Так акруцілі, што і апамятавацца не далі.

Ключ. Ну, цяпер, даражэнькі, ідзеце па падарунак.

Глоў. Па які падарунак?

Ключ. Ах, даражэнькі, у добрых людзей так робіцца: малады маладой праўляе які-небудзь падарунак! Пайду абрадую Глашу... Цяпер я ўжо дазволю ёй прыбрацца ў модную сукенку, цяпер ужо і яна можа выйсьці замуж. Бывайце мой мілы Пётр Авер'янавіч. Ну цяпер, як будучы муж, можаце пацалаваць мяне.

Глоў. Што?

Ключ. Пацалуйце мяне і ідзеце па падарунак (Глоў цалуе.) Ах, як ён задаволены, самлеў ад шчасьця!... Бывай здаровы, мой мілы нарачоны! (выходзіць).

ЗЬЯВА 8.

Глоў, потым Аляксандр Пятровіч.

Глоў. Штэ-ж гэта такое... Ці яна можа сапраўды, хоча выйсьці за мяне замуж. Шкада, што я не паглядзеў яе пульсу можа яна ў гарачцы. Вось шустрая бабулька... У яе ўсё неяк тра-та-та, цалуй!.. Ідзі па падарунак! Не, я пэўны, што яна паразумнее. Пайду і куплю падарунак, можа ён прыдасца майму Сашы.

Ал. Пятр. (уваходзячы). Ну, што, татка?

Глоў. Нічога, Саша, нічога.

Ал. Пятр. Як нічога?! Зноў нічога?

Глоў. Не, усё добра.

Ал. Пятр. Усё добра! Дык Аўдоцьця Церэньцьеўна згаджаецца!

Глоў. Згаджаецца.

Ал. Пятр. Як гэта вы яе намовілі. Я думаю, што гэта вам вельмі многа каштавала.

Глоў. Ня чую, галасьней.

Ал. Пятр. Вам мусіць трудна было намовіць яе.

Глоў. Дзе там трудна. Яна сама мяне змусіла.

Ал. Пятр. Ня можа быць?!

Глоў. Але, сама.

Ал. Пятр. Напэўна, я ёй вельмі спадабаўся.

Глоў. Як ты, я ня ведаю; а вось я ёй вельмі спадабаўся.

Ал. Пятр. Дык яна для вас згадзілася нас ашчасьлівіць?

Глоў. Ведама, што для мяне...

Ал. Пятр. Як мне дзякаваць вам за гэта.

Глоў. Ня чую... Што?

Ал. Пятр. Я вам вельмі ўдзячны, дарагі татка.

Глоў. Пакуль што, няма чаго... Але-ж я ня маю часу, трэба ісьці купіць на вясельле падарунак.

Ал. Пятр. Як! Ужо і вясельле вызначана?

Глоў. Ну, хоць не вызначана, але ўсёж такі... А, бедныя дзеці, як мне іх шкада... Але, ня можа быць, яна павінна ўзяцца за розум. Бывай (выходзіць).

(Працяг будзе).

# Гаспадарчы аддзел.

### Калі трэба прыступаць да касьбы.

Пара касьбы мае вялікае значэньне. Гаспадар павінен зьвярнуць увагу ня толькі на тое, каб касьбу выканаць у часе добрай пагоды, але і на тое, каб трава не перастаялася і страціла на сваёй вартасьці.

Найлепшую кармавую вартасьць мае трава ў часе свайго цьвіценьня і таму чакаць з касьбою няма чаго. Даўжэй траву трымаць няскошанай ніколі ня варта, бо на колькасьці яе мала прыбудзе, а на якасьці яна страціць шмат (сена стане менш смачным, будзе адзначацца кепскай страўнасьцю і пажыўнасьцю). Досьледамі сьцверджана, што ў траве, якая стаіць на пні пасьля таго, як зацьвіла, робіцца што раз меней бялка, які зьяўляецца найпажыўнейшым складнікам у корме, а павялічваецца ўсьцяж колькасьць малавартасьцёвай целюлёзы (дрэўніны). Нельга не зазначыць, што некаторыя травы ўжо ў часе цьвіценьня пачынаюць дзеравянець, і калі такіх траваў у травастане шмат, тагды трэба да касьбы прыступіць яшчэ перад іх цьветам.

Старая трава дзеравянее, у ёй адкладаецца больш крэменю, які перашкаджае траўленьню; колькасьць-жа іншых соляў (як фосфар, паташ, вапна), якія маюць вялікае значэньне, асабліва для жывёлы-маладняка, значна зьменшаецца. У канюшыны такое зьменшаньне мінэральных соляў, пачынаючы ад цьвіценьня і канчаючы дасьпяваньнем, выносіць каля 3⁰/₀.

Вось-жа ўсё гэта прамаўляе за тое, што з касьбою пазьніцца ня можна. Чырвоную канюшыну трэба касіць, тады, калі як зьявіцца палавіна кветак; люцэрну і інкарнатку — калі пакажуцца першыя кветкі; эспарцэту, віку і сэрадэлю — у поўным цьвеце.

На мурожных сенажацях трэба прыступіць да касьбы, калі большая частка траваў цьвіце; на балотных-жа, дзе растуць вострыя і кіслыя травы, лепей касіць як найраней, бо тут і так атрымліваецца кепскае сена, а калі яшчэ спазьніцца з касьбою, то тагды такое сена будзе мець меншую вартасьць ад саломы.

Ня можна пазьніцца з касьбою ня толькі таму, што маладая трава дае найлепшае сена, але і дзеля таго, што раней скошаная трава пасьля хутчэй адрастае і атрымліваецца болей атавы. Расьліна ў часе росту скапляе запасныя матэр'ялы ў надземных і падземных сваіх частках, якія потым, калі расьліна адцьвіце, скіроўваюцца ў насеньне, пасьля чаго карані слабнуць і ня могуць хутка вытвараць надземныя часткі. Травы, няскошаныя ў час і вытварыўшыя дзеля гэтага насеньне, жывуць параўнаўча мала (усяго 4—5 гадоў) і потым гінуць.

### Макрэц у коней.

Макрэц ня што іншае, як вільготны лішай. Зьяўляецца ён найчасьцей на задніх нагах ніжэй т. зв. шчоткі, асабліва ў коней з белымі плямамі на гэтых частках ног. Макрэц паўстае дзеля доўгіх падражненьняў, выкліканых грязёю, пылам, хлеўнай жыжкай і г. д. Найчасьцей хварэюць коні на гэтую хваробу вясною і ўвосень. Пачынаецца макрэц запаленьнем скуры пад шчоткай; пасьля ў гэтым месцы зьяўляюцца сьветлыя пузыркі, якія лопаюцца і выпушчаюць жоўтую клейкую цечу, якая пасьля цямнее, робіцца сьмярдзючай і далей разьядае скуру. Скура — на гэтых месцах траціць шэрсьць і складваецца ў фалды. Пры лячэньні макрэц спачатку ня так страшны, але калі яго не лячыць, то ён можа перайсьці ў хранічную форму.

На пачатку хваробы жывёле можна памагчы ўтрымліваньнем яе ног у чыстаце і сухасьці; апрача таго карысна хворыя месцы змазваць нясоленым кароўім маслам. Калі скура ўжо мокне, тады можна ўжыць высушваючыя сродкі, як цынкавую мазь, мазь з крэаліну, абкручваньне нагі пакляю і т. пад. Пазьней трэба рабіць ачышчаючыя абмываньні і лугавыя ванны. Добра таксама купаць ногі ў адвары мешаніны з пацярухі сена з алфеем (сьлізьняком); апрача таго, да гэтае мешаніны можна дадаць льнянога сем'я, або цьвету мальвы ці шалфею. Пасьля купаньня хворыя месцы трэба асушыць і намазаць нясоленым кароўім маслам, або, яшчэ лепей, камфорным алейкам.

### Зьнішчайце ліхазельле.

Ліхазельле, якое ў нас сустракаецца настолькі добра прыстасавалася, да нашых кліматычных варункаў і глебы, што ніякая іншая гаспадарчая расьліна ня ў стане бяз помачы чалавека з ім змагацца. Ліхазельле — гэта паразыт, які забірае культурным расьлінам пожыў, ваду і сьвятло. Таму якраз і трэба з ліхазэльлем змагацца. Зразумела, што ў нашыя часы для барацьбы гэтай ужываюцца пераважна хімічныя сродкі. Прыкладам, росчын жалезнага купароса (на 100 частак вады 15—20 частак жал. купароса) вельмі добра нішчыць шырокалістнае ліхазельле (сьвірэпа, палявая гарчыца), калі ім апрыскаем засьмечаныя збажовыя пасевы. Вельмі добрым сродкам зьяўляюцца таксама азатняк і каініт, якія трэба дробна размалоць і пасыпаць імі збажовыя пасевы. Апошнія сродкі яшчэ і тым добрыя, што адначасна зьяўляюцца штучнымі навозамі. Але як у першым, так і ў другім прыпадку гэтыя хімічныя сродкі можна ўжываць толькі тагды, калі разам з збожам не пасеяны якія небудзь матыльковыя расьліны (канюшына, сэрадэля): яны згінулі-б разам з шырокалістным ліхазельлем.

Пералічыць усе хімічныя і няхімічныя сродкі для барацьбы з гэтым дармаз'едам у кароткіх словах не магчыма. Есьць іх вельмі шмат і амаль кожнае ліхазельле вымагае іншага спосабу змаганьня. Таму падаём толькі агульніковыя і для кожнага гаспадара даступныя. Перш за ўсё, поле трэба засяваць толькі добра ачышчаным насеньнем і пасьля пасеву часта абкошваць усе сьцежкі і межы, каб на іх ліхазельле не адцьвітала і не выдавала насеньня; пасьля зборкі збожа поле трэба плытка заараць, каб асыпаўшаеся насеньне ліхазельляў магло прарасьці, а потым другою воркай ці баранаваньнем паразыт гэты зьнішчыць; карнявішчы тых ліхазельляў, якія пры помачы іх размнажаюцца (пырнік), трэба ў часе абработкі поля бараною ці пружыноўкаю выкідаць з зямлі. Вялікае значэньне мае таксама стасаваньне правідловага севазвароту.

У канцы мушу дадаць, што змагацца з ліхазельлем можна куды лягчэй пры радавым пасеве, бо калі гаспадарчыя расьліны растуць у радох, то тагды лёгка можна ліхазельле нішчыць ручною матыкаю або конным палольнікам.

## ПРАЎНЫ КУТОК.

**Кастусь Г., Дзісеншчына.** Вы пішаце, што некалькі гадоў таму назад аддалі на перахаваньне свайму бацьку 150 даляраў і рухомую маемасьць. Бацька-ж Ваш нядаўна памёр. Спадчыну атрымалі Вы супольна з двама братамі. Пытаецеся, ці можна дамагацца ад братоў звароту гэтых грошаў. Вось-жа ў адказ Вам падаём наступнае. Вы павінны дамагацца ад братоў звароту пазычаных Вамі 150 даляраў яшчэ да падзелу маемасьці. Браты мусяць зьвярнуць Вам гэныя 150 дал. ці то грашыма, ці то выдзеленай маемасьцяй на гэную суму. Калі браты ня згодзяцца дабравольна, можаце падаваць у суд. Пасьля падзелу маемасьці, дамагацца звароту гэных грошаў будзе позна.

**Тэкля М., Кабыльнік.** Пішаце што бацька Ваш памёр у 1906 г., пакінуўшы ў спадчыне 10 дзесяцін зямлі, якія пераняў і ўжыткаваў Ваш брат, а пасьля сьмерці брата ягоныя дзеці. Апрача гэтага відаць з Вашага пісьма, што Вы ад сьмерці бацькі аж да гэтага часу служылі ў горадзе і не заяўлялі сваёй прэтэнсыі да гэтай зямлі. Пытаецеся, ці прыслугоўвае Вам права да спадчыны.

Правоў да гэтае зямлі Вы ўжо мець ня можаце дзеля таго, што зайшла даўнасьць. Падаваць справу (даўнасьць — 10 гадоў) у Суд ня радзім Вам.

**Мікола Кажэмяка, Глыбокае.** У адказ на Вашае пісьмо падаем наступнае: падзел спадчыны адбываецца або дабравольна, або судом. У выпадку, калі дабравольны падзел не адбудзецца ў працягу двох гадоў ад падачы просьбы аб падзеле ў суд, устанаўляецца апека над спадчынай, якую суд падзеліць згодна з законам спадкабраньня. Згодна з Вашым пісьмом Вы з братам павінны атрымаць па $^3/_7$ кожны а Вашая маці $^1/_7$ часьць.

**А. М., Ашмяна.** З пісьма Вашага відаць, што 1932 годзе Вы падалі ў суд жалабу на свайго брата аб прызнаньні Вам законнай часткі спадчыны і справу ў судзе выйгралі. Цяпер-жа брат не дапушчае Вас да супольнага ўжыткаваньня б. спорнай зямлі.

Радзім Вам цяпер справу нанава падаць у суд, але ўжо аб выдзеле гэнай зямлі. Суд Вам прызнае права да выдзелу.

## Мае успаміны аб Жылцы.

(Гл. № 14 „Роднага Краю“).

— Што? ўсю ноч па лесе бадзяцца?

— Ды не! хадзем! — кажа ён.

Прайшоўшы мэтраў з сорак весялоўскаю сенажацяй, затрымліваемся каля трох копак сена, залазім у адну з іх зьнізу і храпем да сьвету. Раніцай даведваемся, што чэкісты прыяджжалі, пашумелі і пакінулі акомана з жонкаю і дзяцьмі на месцы.

Помню раз заехаў конна ў Весялоўку адзін Жылкаў знаёмы — нейкі чырвоны камандзер, кіруючыся на фронт пад Радашкавічы; гаварыў благою расейскаю моваю з вельмі выразным беларускім акцэнтам.

— Што гэта за камісар? — пытаюся ў Жылкі, калі той ад'ехаў.

— Чырвоны сатрап! — кінуў Жылка два словы ў адказ.

Ноч з 7 на 8 жніўня 1919 году была апошняю для нас у Весялоўцы. На раніцы нас павайсковаму штурхае Алесь:

— Гэй, братва, ня сьпі! Чуеш?

Гляджу на гадзіньнік: палова дзесятае. За вакном іграе сонца, а гэткі гром?!...

О, гэта гром добра знаёмы з вялікай вайны!... Зусім недзе блізка грымяць гарматы. Хутка апранаюся, вылятаю на двор, на бераг Сьвіслачы, лезу на густую высокую вольху — глянуць у заходні бок, адкуль далятае да вушэй гэты гром. Над галавою высока пралятае аэраплян. Але чый?... Раптам: жж! жж! У вушох знаёмы посьвіст куляў. І ў гэты самы мамэнт на другім беразе рэчкі, ледзь не пад самым маім носам, схапляецца на ногі, нябачаная мною дасюль, шэрая тыральера бальшавіцкіх стральцоў.

Нейкі камандзер ці камісар блутаецца з канём, махае шашкаю, дарэмна стараецца затрымаць адступленьне. Польская артылерыя крые ўжо па заходняй акраіне гораду. З правага боку, на гасьцінцы, траскаціць кулямёт бальшавіцкага панцырнага самаходу...

Каменем спадаю з вольхі. Зьмешваюся з радамі перабрыўшых мелкую Сьвіслач чырвонаармейцаў. Адзін з іх, трымаючы на вяровачцы стрэльбу на плячох, пытаецца:

— *Товарищ, махорка есть?*

— *К сожальнію... не курю...* — адказваю яму.

Праз пару шагоў — Весялоўка. Алесь частуе чырвоных ваякоў махоркай. Салдаты шпургаюць стрэльбы ў кусты і даюць драла. Акоман выцягвае адну з іх з куста, лаецца:

— Далей кідайце, на сенажаці, с... сыны, а тут няма чаго складу зброі рабіць...

Жылка ўжо запрог каня і пакурэў у Менск. Буржуазная моладзь, сабраная для працы ў камуне, адпушчана Алесем дамоў. Сам ён рашыў застацца ў акомана.

Пру сьцежкаю праз сенажаць, кіруючыся проста на хату, дзе мая квартэра. Два чырвонаармейцы, разброіўшыся, бягуць за мной...

Гадзіны каля 12-е, ў поўдзень, горад ужо ў руках пазнанцаў і легіянэраў.

Калі зусім заціхла страляніна, іду на кватэру Жылкавых бацькоў. Частуюць... нібыто чаем з белаю цукроваю патакаю.

— Вось жыцьцё! — бядуе сухотная на выгляд, як і сам Жылка, яго маці.

— Дыктатура пролетарыяту! — весела падхапляе бацька Жылкі, крыху сіваваты, ня то таксама акоман, ня то агароднік на выгляд. Старыя гаварылі чыстаю беларускаю моваю...

А ўвечары мы з Жылкай былі ўжо на сходзе беларусаў, дзе закладаўся часовы нацыянальны камітэт. Сабралася сотні з паўтары душ.

Пры палякох Жылка мала прабываў у Менску, бо ўся іх сям'я выехала недзе ў провінцыю. Колькі разоў яшчэ мы сустракаліся з Жылкай у Менску. Я быў заняты працаю ў Беларускай Вайсковай Камісіі ды супрацоўніцтвам у штодзеннай газэце „Беларусь“. Жылка, як беларускі эс-эр, быў ворагам, як вайсковае нашае фармацыі, так і наагул усяе орыентацыі на Польшчу, якое тады шчыра трымалася часьць нашае інтэлігенцыі, носячыся з вельмі рожавымі надзеямі. Жылка мягка, папрыяцельску кідаў няраз мне ў вочы:

— Беларускія эн-дэкі! —

Гэта адносілася да ўсіх, хто верыў тады ў беларускае вызваленьне пры падмозе Польшчы. „Беларускія эн-дэкі“ азначала ў вуснах Жылкі ня што іншае, як цяперашняе бальшавіцкае „нацдэмаўцы“.

Цераз два гады, у траўні месяцы 1921 году, сустрэўся я з Жылкай тут у Вільні на Вострабрамскай 7, у фактычнага рэдактара „Нашае Думкі“, далейшае рэдагаваньне якое той перадаваў мне. Жылка прачытаў некалькі сваіх вершаў. Рэдактар зазначыў, што ў іх ёсьць такія і гэткія шурпатасьці і вершы забракаваў.

Праз нейкі час я поштаю атрымаў ад Жылкі з Гарадзеі пісьмо ў рэдакцыю вершам. Верш нішто сабе, але ў адным-двух месцах гэткая нястройнасьць, што псуецца ўсё. Я выправіў верш, як мог, і зьмясьціў у газэце. Калі пазьней мы сустрэліся з Жылкай, дык ён спытаўся:

— Чаму-ж ты ўжо сам і не падпісаўся пад маім пісьмом? гэтак ты яго адчыканіў!

Ідэолёгіі Жылка трымаўся лева-эсэраўскай; я жартаваў часам у гутарцы з ім, што гэта здарэвеннае пробы ўсё-ж такі той самы бальшавізм.

З якім-жа цяжкім сэрцам павінен быў гэты хваравіты з выгляду лірык зьмяніць свой ідэалістычны сьветагляд, каб скіравацца з Чэхіі ў Менск, ня сустрэць там ніякага поля для творчасьці і закончыць жыцьцё недзе на выгнаньні, як беларускі „нацдэм“?!

Не павінна загінуць памяць аб Жылцы ў гаротным нашым народзе, які гэтак любіла яго тонкая душа!

*Краўцоў Макар.*

